**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 5.28, 21.01, 15.33;
Віцебск — 5.15, 20.55, 15.40;
Магілёў — 5.19, 20.49, 15.30;
Гомель — 5.24, 20.38, 15.14;
Гродна — 5.48, 21.12, 15.24;
Брэст — 5.53, 21.08, 15.16.

**МЕСЯЦ:**
Першая квадра 5 жніўня.

**ІМЯНІНЫ:**
Трафіма, Феафіла, Апалінара;
Марыі, Станіславы

# ЗВЯЗДА

5 ЖНІЎНЯ 1992 г. серада, № 154 (21932)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

## РОЗГАЛАС

### У халадзільніках мяса ёсць. Засталося, каб яно перамясцілася ў нашы страўнікі

**Як сведчаць папярэднія статыстычныя даныя за мінулы месяц, у рэспубліцы працягваецца падзенне вытворчасці большасці відаў тавараў народнага спажывання. У выніку скарачаецца іх паступленне ў гандлёвую сетку.**

Так, у параўнанні з першым паўгоддзем мінулага года, сёлета паступіла ў продаж менш: шарсцяных тканін — на 23 працэнты, шаўковых — на 38, ільняных — на 51, скуранога абутку — на 31 працэнт.

Значна зменшылася і пастаўка харчовых тавараў: кандытарскіх вырабаў — на 29 працэнтаў, мяса — на 32, цукру — на 38, рыбы — на 60.

Тэндэнцыя са зніжэннем паставак назіраецца і ў жніўні. Гэта ў першую чаргу датычыць каўбасных вырабаў, цукру, алею. У Мінску, іншых гарадах ужо адчувальныя перабоі ў забеспячэнні хлебабулачнымі вырабамі з пшаніцы, у продажы не заўсёды ёсць мяса, і гэта тым больш дзіўна, што на канец ліпеня ў халадзільніках мясакамбінатаў яго назапасілася звыш 40 тысяч тон, і сельскія гаспадаркі адчуваюць цяжкасці са здачай жывёлы.

**Анатоль КУЛЯШОЎ.**

## «Я ЛІЧУ, ШТО ЧАС ПЛАШЧА І КІНЖАЛА ЗАКАНЧВАЕЦЦА»,—

### СКАЗАЎ СТАРШЫНЯ КДБ БЕЛАРУСІ ЭДУАРД ШЫРКОЎСКІ НА СУСТРЭЧЫ З ЖУРНАЛІСТАМІ

**Сустрэча была наладжана адразу ж пасля вяртання кіруючых работнікаў беларускай службы бяспекі з Кіева, дзе 31 ліпеня было падпісана пагадненне паміж КДБ Беларусі і Службай Бяспекі Украіны аб супрацоўніцтве.**

Па сваёй сутнасці і па свайму духу гэты дагавор з'яўляецца пагадненнем паміж раўнапраўнымі суверэннымі дзяржавамі і накіраваны якраз на забеспячэнне гэтага суверэнітэту, сказаў Э. Шыркоўскі. Падпісаны дагавор стаў юрыдычнай падставай для супрацоўніцтва паміж спецслужбамі абедзвюх краін. Тут ёсць даволі шырокі спектр для сумеснай работы: абмен інфармацыяй, бяспека грамадзян — барацьба з тэрарызмам, наркабізнесам, эканамічнымі злачынствамі. Граніцы ў нас празрыстыя, зараз ідзе актыўнае развіццё рынкавых адносін, але само гэтае паняцце — рынак — многія навяўленыя камерсанты разумеюць па-свойму. Адсюль — розныя адступленні ад заканадаўства, прычым вельмі часта — свядомыя. Я не лічу, што гэта спецыфічны для КДБ занятак, сказаў старшыня, але на сённяшні дзень мы павінны займацца і гэтым.

Эдуард Іванавіч асабліва падкрэсліў, што ў адным з пунктаў дагавора агаворана наступнае: спецслужбы Украіны і Беларусі не будуць працаваць адна супраць адной: не дай Бог, калі разгарыцца вайна разведак у краінах СНД, лічыць ён.

На сустрэчы, вядома, закраналіся і многія іншыя тэмы. **Аб каўказцах.** Ці не лічыць старшыня КДБ, што пастанова аб забароне пасялення жыхароў паўднёвых рэспублік СНД у гасцініцах Мінска парушае правы чалавека?

— Як старшыня КДБ я падпарадкоўваюся ўсім рашэнням заканадаўчага органа ўлады. Такая пастанова не ад салодкага жыцця. Як грамадзянін я супраць падобных мераў: раз мы будуем прававую дзяржаву, то чалавечую годнасць трэба паважаць у першую чаргу. Гасцініцы ў любым выпадку лёгка змяніць на прыватныя кватэры.

**Аб супрацоўніцтве са спецслужбамі Польшчы.**

— Сапраўды, тут ёсць праблема. Многія нашы грамадзяне, знаходзячыся ў гэтай краіне, часта падвяргаюцца разбойным нападзенням і грабяжам. Да гэтага часу работа ў гэтым напрамку вялася па лініі Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі і Польшчы. Аднак прынятых мер пакуль недастаткова. Гэтую работу неабходна актывізаваць.

**Якая сітуацыя ў Беларусі напярэдадні гадавіны путчу?** У Расіі, напрыклад, прыйшлі ў рух сілы, якія адкрыта заяўляюць аб непадпарадкаванні законнай уладзе, прэзідэнту...

— У нашым камітэце ёсць аналітычная служба, якая займаецца зборам і аналізам сітуацыі ў рэспубліцы. Нам трэба прагназіраваць, заглядваць у заўтрашні дзень. Дык вось, паводле нашых звестак, сітуацыя ў Беларусі стабільная і спакойная.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## Ураджай гарантуюць навукоўцы і практыкі

Шматгадовае супрацоўніцтва звязвае калгас імя Дзяржынскага Полацкага раёна з Беларускім навукова-даследчым інстытутам земляробства і кармоў. Навукоўцы прапануюць хлебаробам новыя гатункі збожжавых культур для выпрабаванняў на палетках, даюць каштоўныя рэкамендацыі па вырошчванню пасеваў.

Сёлетняе жніво стала чарговым экзаменам для новага гатунку хуткаспелага ячменю. Выстаяў ён у спёку, налілося буйное калоссе. Складаныя ўмовы ўборкі ўраджаю, але механізатары ўпэўнена вядуць свае камбайны па калгасных нівах. На 930 гектарах ідзе тут жніво, на большасці ўчасткаў прымяняецца выдатна зарэкамендаваўшая сябе тэхналогія ўборкі са здрабненнем саломы на сянаж.

НА ЗДЫМКАХ: старшы навуковы супрацоўнік інстытута земляробства і кармоў Алег БЕЛЯНКЕВІЧ і старшыня калгаса Фёдар ЗАВАДСКІ на палетках, дзе растуць новыя гатункі; жніво на палях гаспадаркі.

Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

## ФАДЫЁ ФАКТ

Міністры замежных спраў Латвіі, Літвы і Эстоніі прынялі запрашэнне іх расійскага калегі Андрэя Козырава сустрэцца 6 жніўня ў Маскве. Сустрэча будзе прысвечана новаму «пакетнаму падыходу Расіі да рашэння пытання аб вывадзе расійскіх войск з тэрыторыі дзяржаў Балтыі».

***

**Латвійская медыцына пачала падзяляцца па нацыянальнай прыкмеце. Яўрэйскай абшчыне Рыгі перададзена 3-я гарадская бальніца, якая будзе ўтрымлівацца на сродкі абшчыны. Пытанне аб стварэнні рускай бальніцы і палiклінікі абмяркоўваецца і ў рускай абшчыне. Паяўленне нацыянальных бальніц — вынік моўнай атэстацыі, якую праходзяць урачы ў Латвіі. Каб атрымаць ліцэнзію на права лячэння, трэба напісаць дыктант, адказаць на некалькі пытанняў па спецыяльнасці і па гісторыі Латвіі. Атрымаць станоўчы водгук камісіі могуць толькі тыя, хто гаворыць па-латышску з дзяцінства.**

***

Апублікаваны даныя міністэрства ўнутраных спраў Германіі па эміграцыі з Расіі. Колькасць расійскіх немцаў, якія пераехалі са студзеня 1992 года з СНД на пастаяннае жыхарства ў Германію, склала 91 тысячу чалавек.

***

**Народная артыстка Беларусі Інэса Душкевіч — галоўная выканаўца ролі ў новым балеце аб полацкай княгіне Рагнедзе. Нядаўна прыма-балерына зрабіла паездку ў Полацк, дзе знаёмілася з гісторыяй гэтага славутага горада.**

***

У Запарожжы, як паведамляе агенцтва РІА, зарэгістравана 10 выпадкаў атручэння грыбамі, палавіна з лятальным зыходам. Катастрафічны экалагічны стан Запарожжа прывёў да таго, што нават добрыя грыбы сталі ядавітымі. На думку вучоных, ядавітымі могуць стаць гародніна і садавіна, калі экалогія не палепшыцца.

***

**Тры выпадкі шалёнства ліс зарэгістраваны за ліпень у Старадарожскім раёне. У былыя часы такога не здаралася за цэлы год.**

## НЕ РАЗАМ, АЛЕ Ў АДНЫМ НАПРАМКУ

**Дагавор аб супрацоўніцтве падпісалі Міністэрства аховы здароўя Беларусі і створаная не так даўно Асацыяцыя ўрачоў рэспублікі. Перыяд канфрантацыі дзяржаўнай і грамадскай структур закончыўся.**

— Мы — за супрацоўніцтва, якое не ўшчамляе ні грамадзян, ні медыцынскіх работнікаў, ні органы ўлады, — гаворыць прэзідэнт асацыяцыі Міхаіл Кісялёў. — Дагавор прадугледжвае аб'яднанне намаганняў у перабудове сістэмы нацыянальнай аховы здароўя, у развіцці сеткі медыцынскай дапамогі, у тым ліку і прыватных клінік, вырашэнне праблем прафесіянальнага кантролю, цэнаўтварэння ў галіне прававой і сацыяльнай абароны медыкаў. Гэты акт замацаваў добраахвотную згоду на супрацоўніцтва нашай грамадскай арганізацыі і міністэрства. Пры гэтым ні адзін бок не мае намеру дыктаваць сваю волю. Але разам ісці ў адным напрамку значна лягчэй.

Асацыяцыя ўрачоў звярнулася з прапановай аб супрацоўніцтве да многіх арганізацый, прадпрыемстваў і ўстаноў рэспублікі, дзейнасць якіх напрамую або ўскосна звязана з аховай здароўя. Прапанавала інфармацыйныя паслугі, стварэнне банка даных аб навейшых медыцынскіх тэхналогіях за мяжой, гатова дапамагчы ў стварэнні лячэбных цэнтраў. Адкрывае, дарэчы, і ўласны медыцынскі гаспадарчаразліковы цэнтр.

**Лідзія ПЕРАСЫПКІНА, (БЕЛІНФАРМ).**

Мінск.

## ГОСЦІ З «БУДУЧЫНІ»

**БАРАНАВІЧЫ. Мабыць, настальгія па радзіме прывяла нядаўна ў горад неафіцыяльную дэлегацыю землякоў-эмігрантаў з Ізраіля. У 40-я гады яны пакінулі Беларусь і толькі цяпер змаглі наведаць зямлю сваіх дзядоў.**

Дарэчы, усе 22 «дэлегаты» не забылі роднай мовы. «Іншаземцы» былі прыняты ў гарвыканкоме, наведалі старыя, амаль знікшыя, яўрэйскія могілкі, а ў вольны час рабілі аўтобусны «круіз» па горадзе.

Яны былі прыемна здзіўлены, што ў Баранавічах, насуперак іх чаканню і чуткам у Тэль-Авіве, няма разрухі і голаду.

У знак сваёй прыязнасці да землякоў для гарадской дзіцячай паліклінікі яны прывезлі два інгалятары і рашылі ўнесці важкі ўклад у будаўніцтва новага мемарыяла «Смуткуючая маці», які ў хуткім часе павінен быць адбудаваны за горадам.

ДЗІЎНАЯ ГІСТОРЫЯ

## «Наташа» з Берліна шукае бацьку ў Беларусі

**Доўгі час гэтая гісторыя была толькі прыгожай казкай аб рамантычным каханні. Казкай сумнай, у многіх месцах недапісанай. Яе гераіня па прычынах, пра якія крыху пазней, пажадала не афішаваць сваё прозвішча, назвалася проста Наташай і вырашыла сама знайсці адказы на многія пытанні старой гісторыі. Тым самым апошняя перастала б быць толькі казкай. Менавіта з гэтай адзінай мэтай Наташа прыехала з Германіі ў Беларусь...**

Памятная дата вызвалення Мінска сабрала тады на плошчы Перамогі не толькі ветэранаў. Былі тут і іх дзеці, унукі... І ўсё ж у стракатым натоўпе ўвагу многіх прыцягнула жанчына, што стаяла каля вечнага агню. Хоць і падперазаная салдацкім рамянём, зусім не была падобная на франтавічку. У руках у яе была фатаграфія дзяўчыны з надпісам: «Каму знаёмы гэты чалавек?». І ніжэй подпіс: «Берлін. Май. 1945 год». Як высветлілася потым, дзяўчына на фатаграфіі ў руках пажылой жанчыны была яе маці, якая перад самым заканчэннем вайны пазнаёмілася з маладым савецкім салдатам. Яго, бацьку свайго, і спрабавала знайсці госця з Германіі. Шкада, што размаўляць нам давялося праз перакладчыка. Свабодна валодаючы некалькімі мовамі, фрау Наташа зусім не ведала рускай.

Мы прывыклі ўжо бачыць па тэлебачанні, на старонках газет, часопісаў аб'явы, якія заклікаюць адгукнуцца маці, бацьку, сына, дачку, франтавых сяброў і таварышаў. Людзі шукаюць адзін аднаго. Шукаюць у нашай краіне і за мяжой.

Свайго бацьку, савецкага салдата, які вызваляў у гады вайны Берлін, праз амаль пяцьдзесят гадоў шукае яго дачка, жыхарка ФРГ. Не ведаючы ні імя, ні прозвішча, ні нумара воінскай часці, ні нават горада, дзе ён жыў, не маючы яго фатаграфіі, яна ўсё ж прыехала да нас. Прыехала ў надзеі на поспех. З размовы з Наташай мне ўдалося даведацца пра некаторыя фрагменты гэтай нясконча най гісторыі.

З 23 красавіка па 9 мая 1945 года яе бацька, які хутчэй за ўсё знаходзіўся ў перадавым атрадзе Савецкай Арміі, удзельнічаў у Берлінскай аперацыі (на паўднёвым напрамку). Тут ён і пазнаёміўся з маці Наташы. Аднак гаварыць услых пра падобныя рэчы ў той час не даводзілася — за сувязь з «ворагам» можна было ці пазбавіцца жыцця, ці правесці яго астатак у лагеры. Таму кароткія, але пяшчотныя сустрэчы з немкай заставаліся ў строгім сакрэце. Пасля падпісання акта аб капітуляцыі Германіі салдат быў вымушаны паехаць на радзіму. На памяць аб сабе хлопец пакінуў дзяўчыне невялікую латунную іконку Божай маці. У размове са мной Наташа паказала дарагую сэрцу рэліквію, што змяшчаецца на далоні.

Доўгі час яна наогул нічога не чула пра гэтую гісторыю. Тайну аб ёй маці забрала з сабой у магілу. Толькі праз 15 гадоў пасля смерці маці яе лепшая сяброўка, якая ўсё ведала, прагаварылася. Але весці якія-небудзь размовы пра пошук былога савецкага воіна тады было проста немагчыма. Юнацтва Наташы супала з новай вайной. «Халоднай». І толькі праз некалькі гадоў, калі сцяна, што падзяляла ГДР і ФРГ, рухнула і перастала існаваць, з'явіліся рэальныя шанцы на пошукі. І Наташа чакала іх.

Спачатку яна лічыла, што шукаць бацьку трэба ў Беларусі ці на Украіне. Тлумачэннем было такое няпэўнае меркаванне: калі Берлін вызвалялі Украінскі і Беларускі франты, дык удзельнікамі штурму горада з'яўляліся беларусы і ўкраінцы. Цяпер Наташа толькі ўсміхаецца, успамінаючы сваю першапачатковую версію.

За два апошнія гады пошук мала што даў. Але жанчына не расчароўваецца. Яна пабывала ў Маскве, Санкт-Пецярбургу. Сустракалася з кінарэжысёрамі, якія рабілі здымкі ў разбураным Берліне. Знаёмілася з кінаматэрыяламі. Сама стварыла невялікі відэакліп, што расказвае пра гэтую гісторыю. Ён быў паказаны ў розных гарадах Расіі, але пакуль безвынікова. Пабывала Наташа і ў «Мемарыяле», які, дарэчы, дапамог атрымаць ёй дазвол на вывучэнне архіўных дакументаў. Але жанчына ім не зусім давярае, таму што звесткі аб вайне тут далёка не поўныя. Так, у Маскве Наташа сустрэлася з ветэранам — удзельнікам Берлінскай аперацыі. У архівах яго прозвішча няма. Дома ж захоўваецца фатаграфія, дзе франтавы карэспандэнт сфатаграфаваў яго ў разбураным горадзе. Наташа баіцца, што ў архівах можа таксама не аказацца імя яе бацькі. Таму яна імкнецца больш сустракацца з ветэранамі.

У размовах з імі з'явілася цікавае меркаванне аб тым, што невядомы салдат афіцыяльна не мог служыць у рэгулярных часцях Савецкай Арміі, бо ў маі сорак пятага яму споўнілася ўсяго 17 гадоў. Магчыма, ён далучыўся да іх з партызанскага атрада. У маскоўскай студыі дакументальных фільмаў жанчыне параілі з'ездзіць у Мінск, дзе 3 ліпеня збіраюцца людзі, якія ў партызанскіх атрадах у гады вайны называліся юнымі мсціўцамі. Так немка Наташа апынулася ў сталіцы Беларусі.

— Я прыехала са сваёй сяброўкай і захапіла з сабой відэакамеру, каб дакументальна зняць увесь працэс пошуку, — гаварыла яна. — І я вельмі ўдзячна вашаму народу за імкненне дапамагчы мне. Напэўна, сапраўды гора, а мне вядома, што ў Беларусі загінуў кожны чацвёрты жыхар, аб'ядноўвае людзей.

Загадчыца партызанскага аддзела Дзяржаўнага музея гісторыі Айчыннай вайны Раіса Чарнаглазава дапамагла Наташы сустрэцца з многімі ветэранамі. Спрабуе яна таксама звязацца са спецыялістамі, якія змаглі б падказаць, дзе выраблена падараваная іконка. Высветліць пакуль нічога не ўдалося. Магчыма, бацькі ўжо няма ў жывых. Мінула ж паўстагоддзя. А калі ён нават і жывы, ці зможа прызнаць у ёй сваю дачку, якой ні разу не бачыў.

Некаму ўся гэтая гісторыя здасца дзіўнай. Няма куды, маўляў, чужаземцы валюту дзяваць, акрамя як на пераезды з аднаго горада ў другі. Кожны можа думаць па-свойму. Але пры гэтым нельга забываць, што ў чалавека ёсць права даведацца, кім былі яго маці ці бацька. Дык, можа, хто-небудзь, прачытаўшы гэтыя радкі, прыгадае: Берлін, сорак пяты, нямецкая дзяўчына па імені Францыска. Яе дачка шукае свайго бацьку.

**Аляксандр МАКАРАЎ.**

## Лепш сініца ў руках

**Трыста тысяч тон збожжа павінны сёлета здаць гаспадаркі Брэстчыны. На элеватары паступіла ўжо больш за чвэрць запланаванага — 80 тысяч тон.**

Паспяхова спраўляюцца са жнівом і здачай збожжа ў Бярозаўскім, Брэсцкім, Ляхавіцкім раёнах. А вось кіраўнікі гаспадарак Кобрынскага раёна рашылі не спяшацца — патрабуюць павышэння закупачных цэн. І гэта нягледзячы на тое, што днямі яны значна ўзраслі. Мо не трэба лавіць жураўля ў небе?

**Анатоль КУЛЯШОЎ.**

## Штрафам— па гарачай галаве

**БАРАНАВІЧЫ. У сувязі са шматлікімі пажарамі ў лясах у горадзе прынята рашэнне: за «наведванне» лесу без дазволу лясніцтва грамадзяне могуць быць аштрафаваны на 500 рублёў.**

Улады горада лічаць, што гэта мера хоць крыху астудзіць галовы шматлікіх турыстаў, якія чамусьці забываюць засыпаць за сабой вогнішчы і тушыць акуркі. У выніку гэтай халатнасці гарыць каля 30 лясных масіваў і тарфянікаў.

## НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ Ў ЖНІЎНІ

**Для людзей, якія адчувальныя да магнітных бур і іншых астрафізічных з'яў, нагадваем неспрыяльныя дні ў жніўні. Адзін, 1-га, мы перанеслі ўжо. Паберажыцеся цяпер 8, 10, 20, 27 і 28-га.**

## Хутка будзем у «Еўрасіці»?

Ва ўпраўленні Беларускай чыгункі адбыліся перагаворы паміж яе начальнікам С. Шкапінам і прэзідэнтам Цэнтральнай еўрапейскай камісіі «Еўрасіці» Р. Рупертам. Былі разгледжаны пытанні хутчэйшага падключэння Беларускай чыгункі да Еўрапейскай сеткі «Еўрасіці», умацавання партнёрства. У цэнтры ўвагі знаходзіліся задачы праектавання высокахуткаснай пасажырскай магістралі Варшава — Мінск па двух напрамках: Цірaспаль — Брэст — Мінск і Брузгі — Гродна — Мінск, а таксама падрыхтоўкі і арганізацыі на іх базе сумесных прадпрыемстваў з заходнееўрапейскімі партнёрамі.

Работы плануецца пачаць у 1993 годзе.

**Ганна ЛАГУН.**

## ПРАЗ ЦЕРНІ ДА... ЗАКОНА

**З непрадбачанымі цяжкасцямі сутыкнуліся распрацоўшчыкі праекта Закона Рэспублікі Беларусь аб псіхіятрыі.**

Як паведаміў галоўны псіхіятр Міністэрства аховы здароўя рэспублікі Уладзімір Іваноў, праект быў падрыхтаваны ў красавіку бягучага года, але да гэтага часу не прайшоў узгадненне ў Савеце Міністраў рэспублікі. Каменем спатыкнення стала Палажэнне аб прымусовым лячэнні хворых, якія пакутуюць ад псіхічных захворванняў. Распрацоўшчыкі праекта прапануюць узаконіць змяшчэнне хворых у клініку толькі з санкцыі суда, аргументуючы гэта тым, што толькі суд можа абмежаваць чалавека ў свабодзе. А змяшчэнне на прымусовае лячэнне ў псіхіятрычную клініку — не што іншае, як пазбаўленне волі. Вярхоўны суд рэспублікі катэгарычна супраць таго, каб на судовыя органы былі ўскладзены такія функцыі, хоць падобная практыка існуе ў большасці развітых краін.

Пракуратура рэспублікі таксама не згодна ўзяць на сябе дадатковыя абавязкі, звязаныя са змяшчэннем у клініку псіхічна хворых людзей, лічачы іх па-за межамі сваёй кампетэнцыі.

У выніку праект пыліцца ў Камісіі Вярхоўнага Савета па ахове здароўя. Надзей на тое, што ён будзе прыняты да слухання без неабходнага ўзгаднення, вельмі мала. А закранае ж ён многіх людзей.

**Святлана КАЛІНКІНА. (БЕЛІНФАРМ).**

## ВЕТА НА ПАЎСВЕТА

**Начальнік дэпартамента мытні Латвіі Імантас Гейданс налажыў вета на вываз з рэспублікі каляровых металаў. Мытнікі абавязаны затрымліваць усе транспартныя сродкі і грузы з каляровымі металамі ці іх сплавамі. Гэта выклікана неабходнасцю забараніць іх хаатычны вываз з Латвіі.**

## ДЫПЛАМАТЫ РАСКАЗВАЮЦЬ ПРА ЖЫЦЦЁ

Агульнавядома: суверэнную Рэспубліку Беларусь усё больш і ахвотней прызнаюць у свеце. Гэта раней нават у Еўропе, не кажучы ўжо пра іншыя кантыненты, ў адказ на пытанне: «Што вы ведаеце пра Беларусь?» — маглі развесці рукамі, а іншы раз проста спытаць: «А дзе яна, гэта краіна?»... Прыйшлі, дзякуй Богу, новыя часы, а з імі — увага і павага да нас, беларусаў...

У гэтым цвёрда пераканаліся журналісты, якіх запрасілі пазаўчора ў Міністэрства замежных спраў рэспублікі на брыфінгі з часовым павераным Беларусі ў Злучаных Штатах Амерыкі Сяргеем Мартынавым і пастаянным прадстаўніком Рэспублікі Беларусь у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый Генадзем Бураўкіным. На працягу больш чым адной гадзіны і першы з іх, і другі апавядалі аб умовах працы і жыцця ў далёкім замежжы, неадкладных праблемах, якія прадстаіць вырашыць у бліжэйшы і аддалены час беларускім місіям у ЗША і ААН, карацей кажучы, аб усім тым, што трэба рабіць, каб нашу рэспубліку не толькі прызналі, а і пачалі паважаць яшчэ больш і мацней.

**(Гутарка карэспандэнта «Звязды» з Генадзем Бураўкіным будзе апублікавана ў адным з бліжэйшых нумароў газеты).**

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

## НА ВЯЛІКУЮ ДАРОГУ З... КАЛАШНІКАВЫМ

**Некалькі дзён назад у Жыткавіцкі РАУС звярнуліся ваеннаслужачыя, воінская часць якіх дыслацыруецца ў Польшчы, і расказалі сумную гісторыю. Паблізу г. п. Мікашэвічы ў час рамонту аўтамабіля да іх падышоў мужчына і пад пагрозай аўтамата Калашнікава забраў 7 тысяч рублёў. Магчыма, пачаў «працаваць» раней адабраны ў часавога ў Слуцку аўтамат.**

## Аб падпісцы на перыядычныя выданні на 1993 год

Міністэрства інфармацыі і Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь паведамляюць, што прыём падпіскі на рэспубліканскія газеты і часопісы на 1993 год мяркуецца арганізаваць у два этапы — спачатку на першае, а потым на другое паўгоддзі. Гэта выклікана нестабільнай эканамічнай сітуацыяй, грашовай інфляцыяй, ростам цэн на паперу, паліграфічныя матэрыялы, паштовыя паслугі. Каб не ставіць падпісчыкаў у цяжкае фінансавае становішча, пазбегнуць пераафармлення падпіскі ў сувязі з магчымым змяненнем кошту перыядычных выданняў, прапануецца наступны парадак правядзення падпісной кампаніі.

Прыём індывідуальнай і ведамаснай падпіскі на першае паўгоддзе будучага года згодна з каталогам рэспубліканскіх газет і часопісаў праводзіцца з 10 жніўня па 31 кастрычніка 1992 года. Падпіска на люты і наступныя месяцы першага паўгоддзя 1993 года будзе прымацца да 5-га чысла кожнага перадпадпіснога месяца.

Тэрміны падпіскі на другое паўгоддзе будуць аб'яўлены дадаткова, не пазней 15 красавіка 1993 года.

Падпіска ад грамадзян, прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў прымаецца без абмежаванняў ва ўсіх паштамтах, вузлах сувязі і аддзяленнях сувязі, у пунктах прыёму падпіскі, магазінах, кіёсках і аддзяленнях Белсаюздруку, а таксама паштальёнамі і грамадскімі распаўсюджвальнікамі друку па месцы работы, вучобы ці жыхарства падпісчыкаў.

Падпісная цана на тое ці іншае выданне ўстанаўліваецца выдавецтвам, рэдакцыяй з разліку выдаткаў па яго выпуску, а таксама кошту яго распаўсюджвання, экспедзіравання, перасылкі і дастаўкі.

**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь**
**Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь.**

